**№215 (1778)**

Пятніца , 14 лістапада 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +3...+5, уначы— -4...-2; у Брэсце ўдзень — +3...+5, уначы — -3...-1; у Гродне ўдзень — +3...+5, уначы — -3...-1; у Віцебску ўдзень — +3...+5, уначы — -2...0; у Гомелі ўдзень — +3...+5, уначы — -4...-2; у Магілёве ўдзень — +2...+4, уначы — -3...-1.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца сонечнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**БОМОНД**

## Анастасия Волочкова приедет в Минск?



Министерство культуры Беларуси ведет переговоры с продюсером российской балерины Анастасии Волочковой о ее гастролях в Минске. Об этом сообщил министр культуры страны Леонид Гуляко. По его словам, он лично проводил переговоры по данному вопросу *"с мамой балерины, которая и является продюсером"*, и получил предварительное согласие.

Сроки приезда А.Волочковой в Минск согласовываются с *"напряженным графиком поездок балерины"*. По предположению министра, гастроли состоятся либо в конце текущего, либо в начале будущего года.

**Интерфакс.**

**ПУЛЬС**

## Беспрацоўе знізілася?

Паводле афіцыйных звестак, на пачатак лістапада на ўліку ў службах занятасці Беларусі знаходзіліся 138,7 тысячы беспрацоўных (на пачатак кастрычніка 2003 года — 139,4). Цяперашні ўзровень беспрацоўя ў краіне складае 3,2 працэнта ад працаздольнага насельніцтва.

Сярэднестатыстычны беларускі беспрацоўны — жанчына ва ўзросце 30 гадоў, якая мае сярэднюю агульную адукацыю.

На сённяшні дзень дапамогу па беспрацоўі атрымліваюць 60,2 тысячы чалавек, што складае 43,4 працэнта ад агульнай колькасці тых, што знаходяцца на ўліку ў службах занятасці. Сярэдні памер дапамогі — 22,7 тысячы рублёў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Хварэюць школьнікі

Паводле звестак медыцынскіх даследаванняў, у 2003 годзе ў Баранавічах, у параўнанні з мінулым годам, у дзяцей больш чым на 3 працэнты павялічылася колькасць захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы; з 38,4 да 42,9 працэнта ўзрасла колькасць дзяцей з хваробамі печані і жоўцевых пратокаў; амаль на 6 працэнтаў стала больш школьнікаў з хранічным гастрытам, на 31,5 працэнта — з дрэнным зрокам.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

## «Святыя зямлі беларускай» па-польску

*Выдавецтва Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі пры садзейнічанні Пасольства Беларусі ў Польшчы выпусціла манаграфію "Святыя зямлі беларускай".*

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе МЗС Беларусі, кніга, якая выдадзена на польскай мове, мае папулярны характар і дае магчымасць шырокаму колу польскіх чытачоў лепш пазнаёміцца з багатай гістарычнай, культурнай і рэлігійнай спадчынай беларускага народа. Фінансавую дапамогу ў выданні манаграфіі аказала ААТ "Прыорбанк".

Выданне ўключае звесткі пра больш за сорак праваслаўных святых, жыццё і дзейнасць якіх звязана з беларускай зямлёй — гэты Еўфрасіння Полацкая, Кірыл Тураўскі, Сімяон Полацкі і іншыя. Манаграфія змяшчае таксама беларускіх святых, якія былі кананізаваныя апошнім часам.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Памяняйце грошы!

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь нагадвае, што 30 снежня 2003 года — апошні дзень абмену старых грашовых знакаў (разліковыя білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь узору 1992—1999 гадоў) на новыя (білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь узору 2000 года).

Абмен праводзіцца толькі ва ўстановах Нацыянальнага банка. Пасля 30 снежня старыя грашовыя знакі страчваюць статус законнага сродку плацяжу і абменьвацца не будуць.

**Упраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка.**

## Затрымалі на канцэрце

*На канцэрце "Віза N.R.M.", які праходзіў днямі ў канцэртнай зале "Мінск", былі затрыманыя чатыры актывісты незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі "Малады фронт" (МФ).*

Артур Фінькевіч і Эдвард Зелянкоў распаўсюджвалі сярод слухачоў канцэрта ўлёткі з заклікам прыйсці 24 лістапада на вулічную акцыю супраць магчымага працягу прэзідэнцкага тэрміну цяперашняга кіраўніка дзяржавы, якую арганізуе МФ. Да затрымання яны паспелі распаўсюдзіць каля тысячы ўлётак. Пры затрыманых, як паведамілі БелаПАН у "Маладым фронце", заставалася яшчэ некалькі тысяч улётак.

**Максім ЗМІТРОВІЧ.**

## Хавайце ад дзяцей запалкі

*Узгаранне ўзнікла ў прыватным доме аднаго з жыхароў вёскі Падароск Ваўкавыскага раёна. У хаце знаходзіліся 31-гадовы малады чалавек і яго трохгадовы сын. Мужчына вярнуўся раніцай з працы, таму лёг адпачываць, а дзіця, мяркуючы па ўсім, гуляла ў гэты час з запалкамі.*

Пажар выявіла жыхарка вёскі. Жанчына ўбачыла дым і паспрабавала ўвайсці ў пабудову. Аднак выявіўшы, што ўваходныя дзверы зачынены знутры, суседка выклікала ратавальнікаў.

Прыбыўшыя на месца пажару байцы МНС вынеслі з пабудовы дзіця. На вуліцы яму спрабавалі аказаць першую медыцынскую дапамогу, але дарэмна. Хлопчык не прыйшоў у прытомнасць і памёр ад атручэння чадным газам.

Вынесенага ўслед за хлопчыкам 31-гадовага бацьку дзіцяці ўдалося выратаваць. Пры пажары мужчына атрымаў нязначныя апёкі спіны і быў шпіталізаваны. Пагрозы для яго жыцця не існуе.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

**ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ**

## Особое мнение? Чье?

Уважаемая "Народная воля"!

Раньше я недоумевал по поводу одной вашей рубрики — "Демократия по-белорусски". Теперь понял: а она, демократия, у нас и в самом деле не такая, как везде. Будто бы есть и будто бы нет.

Вот на ОНТ появилось "Особое мнение". Я вначале думал, что Юрий Шинкарь будет представлять мнения разных людей. Но... увы! Оказывается, есть особое мнение только у него, Юрия Шинкаря. А может, он и вовсе не свое мнение высказывает? Скорее всего не свое, а тех, кто бдительно следит за проведением телевизионным каналом "правильной линии".

Скажите, друзья: а почему бы и в самом деле не превратить "Особое мнение" в трибуну для людей с разными взглядами, разными позициями? Сегодня свою точку зрения представляет чиновник от власти, завтра — лидер какой-нибудь оппозиционной партии, послезавтра — "нейтральный" гражданин из глубинки... Это было бы намного демократичнее, чем постоянно видеть на экране Юрия Шинкаря с его "Особым мнением". Если не сделать так, как я предлагаю, то будет точно так, как было с одиозными передачами Евгения Новикова — люди просто станут выключать телевизор.

**Сергей КОЛОСОВ,**
**телезритель.**

**Шаноўныя чытачы!**

**Усё менш і менш часу застаецца да заканчэння падпіскі на газету "Народная воля" на першую палову 2004 года. Не спазніцеся!**

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з вамі!**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

*Когда новый Чрезвычайный и Полномочный Посол Соединенных Штатов Америки в Беларуси Джордж Крол прилетел в Национальный аэропорт "Минск" в начале сентября этого года, журналисты, встречавшие его, были слегка ошарашены — посол заговорил по-белорусски. Не всякий, честно говоря, дипломатический представитель из дружеской нам славянской державы может похвастаться знанием родного языка белорусов. А здесь американец!!!*

*Американец тем временем быстренько включился в работу. И не только чисто дипломатическую. Он успел подарить книги столичной библиотеке им. Пушкина, медицинское оборудование одной из больниц, организовать празднование американского праздника Хэллоуин в одном из детских домов...*

*Сегодня Посол США в Беларуси отвечает на вопросы "Народной воли".*

### *Джордж КРОЛ,*
### *Чрезвычайный и Полномочный Посол США в Беларуси:*

# «Мне не скучно в Беларуси!»

**— Итак, г-н Посол, верительные грамоты вручены... Почувствовали ли Вы уже себя руководителем дипломатической миссии США в Беларуси?**

— Я почувствовал себя главой американской дипломатической миссии в тот день, когда ступил на белорусскую землю, то есть 3 сентября.

**— Находясь в официальном статусе Чрезвычайного и Полномочного Посла Соединенных Штатов в Беларуси, что успели сделать?**

— Я сейчас стараюсь активно встречаться с людьми — гражданами Беларуси. Общаясь с людьми, я пытаюсь понять, что происходит сейчас в вашей стране. Для продолжения этого общения, как я говорил раньше, я собираюсь путешествовать по всей Беларуси.

**— В чем Вам видится, простите за тавтологию, главная миссия Вашей миссии в Беларуси?**

— Как я уже отмечал в своей речи в Государственном департаменте США во время моей инаугурации в качестве Чрезвычайного и Полномочного Посла США в Беларуси (эта церемония проходила в Вашингтоне и на ней присутствовал Госсекретарь Колин Пауэлл), а также во время вручения верительных грамот президенту Лукашенко в Минске, моя главная миссия здесь, как, впрочем, и миссия всех американских послов во всем мире, — делать все возможное для того, чтобы мир был более безопасным, более демократичным, более процветающим. Это касается всех стран, где работают американские дипмиссии, а не только в Беларуси. Именно это и является моей главной миссией. Также я буду стремиться сделать все, что в моих силах, — вместе с белорусским народом — чтобы в Беларуси развивались демократические институты общества, чтобы жить в Беларуси стало безопаснее. Развитие экономических отношений между нашими странами, естественно, также входит в список моих обязанностей.



**— Ваш предшественник Майкл Козак был довольно резок в оценке нынешних белорусских властей. Утверждают, что за острые критические высказывания, сделанные им в интервью нашей газете, власти затягивали процедуру вручения ему верительных грамот, всегда критически о нем отзывались. Но действия Козака были, по меньшей мере, логичными и соответствующими жесткой позиции США по отношению к политике белорусских властей. У Вас же верительные грамоты приняли без промедления, даже наш МИД высказался довольно одобрительно по поводу назначения Вас Послом. Не кажется ли Вам это неким особым знаком? Не думаете ли Вы о том, что белорусский диктаторский режим надеется, что Вы будете "мягким и пушистым" и будете способствовать его признанию Белым домом?**

— Хочу Вам совершенно искренне сказать, что одной из важных черт политики США по отношению к Беларуси является преемственность. Политика США по отношению к Беларуси не изменится, если не изменится политика самой Беларуси. А личность посла в этом смысле не играет большого значения. Миссия посла Козака и моя миссия совершенно одинаковы. Я как вновь назначенный Посол США продолжаю дело предыдущего Посла. Майкл Козак был заинтересован, так же как и я, в установлении и развитии теплых, дружественных отношений между американским и белорусским народами.

Конечно же, развитие наших отношений будет лежать в русле интересов демократического сообщества. А мы заинтересованы прежде всего в развитии в Беларуси демократии и рыночной экономики. И, конечно, многое связано с выполнением белорусскими властями известных четырех условий ОБСЕ. Эта позиция США была, есть и будет оставаться четкой.

Возможно, теплый прием и лестные отклики вашего МИДа по отношению к моей персоне связаны с тем, что они сами искренне хотят наладить дружественные отношения Беларуси и США. Для меня это, конечно, очень приятно. Но я хотел бы просто напомнить вашим чиновникам, что пора уже от красивых слов и обещаний переходить к реальным делам, которые подтвердили бы приверженность Беларуси идеалам демократии и принципам ОБСЕ.

**— То есть до тех пор, пока условия ОБСЕ не будут выполняться белорусскими властями, ожидать изменений в политике США по отношению к Беларуси было бы наивным...**

— Да, именно так.

**— Лукашенко во время встречи с Вами сказал, что "мы очень уважаем Соединенные Штаты, понимаем, что это самое мощное в экономическом, политическом, технологическом плане государство мира"... Все это было сказано на фоне той антиамериканской истерии, которая почти десять лет нагнетается в белорусском обществе. Не кажется ли Вам, что глава белорусского государства элементарно лицемерит? И как Вы в связи с этим собираетесь строить отношения с белорусскими властями?**

— Как я уже Вам говорил, слово — это слово, а дело — это дело. Самое главное — это дело. Не имеют веса очередные намерения правительства Беларуси, имеют вес только его конкретные решения, которые бы соответствовали общемировым и общепризнанным принципам. Если Беларусь действительно хочет использовать наш опыт, то пусть правительство и президент Беларуси предпримут конкретные шаги, а не только говорят об этом. Мы всегда открыты к сотрудничеству с белорусским народом, — хочу это подчеркнуть.

**— На недавней пресс-конференции А. Лукашенко был заметно раздражен, когда журналист нашей газеты Марина Коктыш задала вопрос о похищенных — Викторе Гончаре, Юрии Захаренко, Анатолии Красовском и Дмитрии Завадском. Будете ли Вы вновь поднимать этот вопрос перед белорусскими властями, в очередной раз предлагая им помощь в расследовании "громких дел"?**

— Конечно, собираюсь. Кстати, открытое и серьезное расследование "громких дел", как вы знаете, является согласованным элементом тех четырех условий ОБСЕ, о которых я уже говорил. И поэтому это расследование могло бы стать реальным шагом белорусских властей в направлении выполнения этих условий.

**— "Акт о Демократии в Беларуси" не так давно наделал много шума: в независимой прессе разговор велся в основном в одобрительном плане, в проправительственной — в негативном. Сейчас о нем — тишина. С чем это связано, на Ваш взгляд?**

— Сейчас этот законодательный акт находится в стадии обсуждения между Сенатом и Палатой представителей США. Я пока не могу вам сказать, когда закончится это обсуждение и когда Акт будет полностью принят. Тем не менее обсуждение Акта продолжается. Некоторые конгрессмены им очень серьезно занимаются. И последнее обострение ситуации в Беларуси, связанное с закрытием многих неправительственных организаций, продолжением давления властей на независимые СМИ, конечно, очень беспокоит наших конгрессменов и сенаторов. Все это является предметом для обсуждения и одной из причин ускорения окончательного принятия Акта.

**— Насколько я знаю, совсем недавно по инициативе Посольства США в одном из детских домов Минска детям вручались подарки по поводу праздника Хэллоуин. Незадолго до этого Вы подарили книги библиотеке им. Пушкина. Насколько активной будет благотворительная составляющая Вашей деятельности здесь, в Беларуси?**

— Благотворительные акции мы планируем проводить на протяжении всего моего трехлетнего мандата здесь в Беларуси. Более того, я рассматриваю это как главный элемент работы нашей дипмиссии. И так было всегда. Благотворительная деятельность отражает интересы не только нашей дипломатической миссии, а и всего американского народа. И вообще, огромная составляющая американской помощи другим народам — это гуманитарная помощь: лекарства, медицинское оборудование, продукты питания. Для нас это очень важно.

**— Ваши попытки говорить на белорусском языке, господин Посол, — дань уважения нашей культуре или просто желание понравиться собеседникам?**

— Я лічу сябе прыхільнікам беларускай мовы. Канешне, мне патрэбна практыка, каб размаўляць па-беларуску больш-менш добра. Безумоўна, мае спробы гаварыць па-беларуску — гэта знак павагі да беларускага народа, да гісторыі Беларусі. Калі вашы людзі хочуць гаварыць на роднай беларускай мове, любяць родную мову — гэта, на мой погляд, вельмі і вельмі добра. І вельмі прыемна для мяне. Дарэчы, я лічу беларускую мову вельмі меладычнай і збіраюся яе выкарыстоўваць падчас гутарак з вашымі людзьмі.

**— Сразу по приезде в Минск Вы организовали неформальный ланч с независимыми журналистами. Значит ли это, что Ваши отношения с прессой будут, как говорят американцы, экстремально friendly? Как планируете строить отношения с государственной прессой?**

— Экстремально дружескими *(смеется)*? Экстремально дружескими — вряд ли, а вот просто дружескими — это точно. Я считаю, в отношениях между политиками, чиновниками и журналистами изначально существует некоторая напряженность, но эти отношения должны оставаться дружескими. Это одна из черт демократии. Что касается меня, то я очень люблю общаться с журналистами и всегда готов отвечать на любые вопросы, даже очень острые. Для меня как представителя американской дипломатической миссии встречи, общение с журналистами — это прежде всего возможность выразить свои мысли, позицию своей страны. Мы также заинтересованы в том, чтобы вы через свои средства массовой информации оперативно и точно доводили нашу позицию до других членов общества. Пресса — очень важное средство общения между правительствами и народами, в данном случае — между Беларусью и Соединенными Штатами Америки. Общение с прессой я считаю чрезвычайно важным элементом своей работы.

**— Будете ли делать какие-то различия между государственной и независимой прессой?**

— Нет. Я открыт для представителей всех СМИ и не делаю различий.

**— Недавно в передаче "Свобода слова" российского канала НТВ Александр Лукашенко сказал, что "Народная воля" получает от американцев в месяц 50.000 долларов. Существуют ли вообще гранты для прессы в таком размере, и Вы не знаете, случайно, господин Посол, где можно забрать деньги?**

— Понятия не имею *(смеется)*. И, признаться, впервые об этом слышу. В том варианте передачи, который я видел по телевидению, этих слов Лукашенко я не слышал (*имеется в виду "отредактированный" вариант передачи, который предложили своим зрителям каналы ОНТ и СТВ. — А.С.*).

**— Вашему приезду в Беларусь, г-н Посол, по-моему, особенно обрадовалась женская часть нашего общества, когда узнала о том, что Вы неженаты. Три года — это достаточный срок, чтобы найти в Беларуси невесту и вернуться с ней в Америку? Допускаете ли мысль, что Ваша вторая половина живет в Беларуси?**

— Об этом знает только Бог. Я не знаю. Если честно, у меня очень мало свободного времени, чтобы тратить его на знакомства.

**— Есть ли нечто, чего Вам очень не хватает здесь, в Беларуси, например, хороших сигар или каких-то продуктов питания?**

— Мне всего хватает. Более того, здесь в Беларуси я могу найти некоторые продукты питания, которые трудно найти в Америке.

**...?**

— Мои любимые кисломолочные продукты. В США они не очень вкусные, а у вас — очень! Кефир, простокваша, ряженка, сметана, домашний творог в Беларуси — самые лучшие в мире. Как славянин я испытываю огромное удовольствие. Если я имею возможность пить этот замечательный кефир и есть кашу, то можно сказать, что мои условия жизни просто прекрасны. И как обычный белорус я просто обожаю драники...

**— Драники Вам предлагают в ресторане или Вы сами их готовите?**

— Мой повар готовит.

**— А в МакДональдс ходите?**

— Иногда. Драники — все равно лучше.

**— По кому скучаете больше всего здесь, в Беларуси?**

— По старым друзьям. По родственникам. По членам моей семьи. Но хочу отметить, что я уже завел здесь много новых друзей. Мне не скучно здесь, в Беларуси! Прекрасная природа, симпатичные люди, интересная ситуация.

**Беседовал**
**Александр СИЛИЧ.**
**Фото ByMedia.net**

## Ліквідавана падпольная друкарня

Супрацоўнікі Баранавіцкага міжраённага аддзела ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС РБ сумесна з калегамі з Мінскай вобласці ліквідавалі ў Баранавічах падпольную ўстанову, якая выконвала адначасова ролю друкарні, рэгістрацыйна-экзаменацыйнага аддзела беларускай ДАІ і расійскай Дзяржаўнай інспекцыі бяспекі дарожнага руху (ДІБДР), а таксама мытні.

Крымінальная справа па частцы 1 артыкула 381 (падробка або знішчэнне ідэнтыфікацыйнага нумару транспартнага сродку) у дачыненні да неўстаноўленых асоб была заведзена яшчэ ў маі. Невядомыя падазраваліся ў падробцы ідэнтыфікацыйнага нумару аўтамашыны "Таёта Лэнд Крузер", канфіскаванай у сакавіку на тэрыторыі Мінскай вобласці.

Апоўначы 12 лістапада вытворцы фальшывых дакументаў былі захоплены на месцы злачынства, непасрэдна пасля вырабу чарговай партыі падробных дакументаў. Падазроныя — два жыхары Баранавічаў 35 і 28 гадоў, раней не судзімыя і беспрацоўныя.

Падчасператрусу ў доме па завулку Грамадзянскім у Баранавічах былі выяўлены і канфіскаваны падробнае пасведчанне супрацоўніка крымінальнага вышуку УУС Брэсцкага аблвыканкама на чужое імя з фатаграфіяй аднаго з затрыманых, пячаткі аддзелаў ДАІ Баранавічаў, Мінска, Гомеля, пячаткі ДІБДР Санкт-Пецярбурга і Масквы, штампы розных дзяржустаноў Беларусі, Расіі і краін Заходняй Еўропы, пячаткі мытні "Заходні Буг" , бланкі мытных дакументаў Беларусі, Польшчы, Германіі, Нідэрландаў, вялікая колькасць чыстых і запоўненых бланкаў тэхнічных пашпартоў транспартных сродкаў, сертыфікатаў аб праходжанні тэхнічнага агляду Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, галаграмныя налепкі для транспартных сродкаў, бланкі даверанасцяў і пасведчанняў асобы, якія маюць хаджэнне на тэрыторыі Казахстана, ксеракопіі расійскіх тэхпашпартоў. Апрача шматлікіх бланкаў, пячатак і штампаў, у падпольнай друкарні знойдзены і канфіскаваны камп'ютэр, чатыры прынтэры і ламінатар, а таксама два аўтамабілі. Падазроныя затрыманы і змешчаны ў следчы ізалятар Мінска.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**КЛІНІКА**

## За правядзенне «галасавання» ўдзельнікі пікета ў Гомелі атрымалі вялікія штрафы

У Гомелі засудзілі арганізатараў грамадскага галасавання, што высвятлялі стаўленне гараджан да магчымага працягу паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. Чыгуначны суд Гомеля разглядаў адміністрацыйныя справы сябраў АГП Алеся Карніенкі і Васіля Палякова. Суддзя Ганна Новік прысудзіла кожнаму па 1 мільёне 650 тысяч рублёў штрафу.

7 лістапада на дазволеным гарвыканкамам пікеце яны праводзілі грамадскае галасаванне адносна працягу прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. Міліцыя затрымала арганізатараў пікета і абвінаваціла іх у парушэнні парадку пікетавання.

На судзе капітан міліцыі Юрый Прышчэпа засведчыў, што складці пратаколы на арганізатараў пікету загадаў намеснік начальніка Чыгуначнага райаддзела ўнутраных спраў Мікалай Спірыдовіч.

Апошні сапраўды прыязджаў на пікет з прадстаўніком гарвыканкама ў разгар галасавання. Менавіта пасля гэтага дазволены гарвыканкамам пікет быў забаронены. Многія гамяльчане, што добраахвотна прыйшлі да Палаца таварыства глухіх, не змаглі выказаць сваё стаўленне да падоўжання прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі.

З захаваных пікетоўцамі бюлетэняў стала вядома, што 89,6% гараджан прагаласавалі супраць трэцяга тэрміну.

Спадары Карніенка і Палякоў кожны паасобку патлумачылі суддзі Ганне Новік, што ў замовах на правядзенне пікету яны ўказвалі мэту. Гэта — правядзенне грамадскага галасавання. Гарвыканкам змяніў толькі месца пікетау, але не забараніў само галасаванне.

Вось што распавёў Алесь Карніенка: *"Да гэтага часу не атрымаў адказу на асноўныя пытанні: "Чаму я тут знаходжуся? Што я парушыў?" Я чытаю закон, але там не напісана, што забаронена праводзіць грамадскае галасаванне. А мне кажуць, што я нешта парушыў. Што парушыў? На такіх жа падставах заўтра супрацоўнікі міліцыі скажуць: чаму ў вас на пікеце людзі ў чырвоных паліто-нах? Не было дазволу, што людзі могуць прыйсці ў чырвоных палітонах! Не было напісана, што людзі могуць быць у клетчастых шаліках, з русымі валасамі альбо з завушніцамі. Вельмі дзіўна ўсё гэта!"*

Суддзя Ганна Новік, якая ў свой час прымала рашэнне пра канфіскацыю камп'ютэрнай тэхнікі ў грамадскага аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы" і моладзёжнага цэнтра "Гарт", аштрафавала Васіля Палякова і Алеся Карніенку на 1 мільён 650 тысяч рублёў кожнага. Як сказана ў судовай пастанове, за тое, што замест пікету быў арганізаваны мітынг.

У аснову пастановы пакладзеныя сведчанні двух ананімаў, прадстаўленых міліцыяй. Адзін з іх нібыта жыве ў Магілёўскай вобласці, другі — у Гомелі, далёка ад месца правядзення пікету. Суддзя пры гэтым адхіліла хадайніцтва выклікаць у суд невядомых сведкаў, каб яны пацвердзілі свае паказанні.

**Казімір ЯНОЎСКІ.**
*Рыдыё "Свабода".*

*Гомель.*

